# ЗВЯЗДА

11 студзеня 1996 г. чацвер, № 9 (22812)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

## РОЗГАЛАС

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ ПРЫБУДЗЕ Ў МІНСК 17 СТУДЗЕНЯ

**Напярэдадні самміта кіраўнікоў дзяржаў СНД у Маскве прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў наведае Мінск з афіцыйным візітам. Ён прыбудзе ў беларускую сталіцу 17 студзеня.**

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, у ходзе гэтага візіту адбудуцца яго перагаворы з кіраўніком беларускай дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам. Бакі падпішуць пакет двухбаковых беларуска-казахскіх дакументаў. Плануецца, што абодва прэзідэнты правядуць прэс-канферэнцыю для прадстаўнікоў беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

### НОВЫЯ ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ЎКАЗЫ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў Указ аб назначэнні Дастанкі Анатолія Паўлавіча старшынёй Вышэйшага атэстацыйнага камітэта рэспублікі. Ён вызвалены ад пасады старшыні Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Кабінеце Міністраў.**

Начальнікам Галоўнага ўпраўлення па дзяржаўных матэрыяльных рэзервах пры Кабінеце Міністраў назначаныЦіткоў Станіслаў Пятровіч.

Еўтухоўскі Міхаіл Міхайлавіч назначаны першым намеснікам міністра гандлю.

За значны ўклад у развіццё беларускай навукі, падрыхтоўку навуковых кадраў указам Прэзідэнта намесніку дырэктара Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі Семянкову Віктару Іванавічу прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь».

Ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» прысвоена пісьменніку, старшаму навуковаму супрацоўніку Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу Скобелеву Эдуарду Марцінавічу. Ён удастоены яго за значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры.

За вялікі ўклад у развіццё і забеспячэнне стабільнай работы Беларускай энергасістэмы начальніку Аб'яднанага дыспетчарскага ўпраўлення энергасістэмамі краіны Вержбаловічу Анатолію Уладзіміравічу прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь».

**БЕЛТА.**

### У ПЯТНІЦУ НАДВОР'Е ПАЛЕПШЫЦЦА

Сёння ўдзень зона снегападаў сыдзе з тэрыторыі рэспублікі, і надвор'е палепшыцца. Месцамі пройдуць невялікія ападкі. У цэнтральных і заходніх раёнах рэспублікі чакаюцца туманы і галалёдзіца. Вецер паўднёвы ад 7 да 12 метраў у секунду. Тэмпература ўначы 3—8 градусаў марозу, удзень — ад 1 цяпла да 4 марозу. У Мінску без істотных ападкаў, туман і галалёдзіца. Максімальная тэмпература — ад 1 градуса марозу да 3 градусаў цяпла. 12 і 13 студзеня ў заходніх і цэнтральных раёнах рэспублікі надвор'е істотна не зменіцца, а ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях тэмпература панізіцца ўначы да 9—14, удзень — да 4—9 градусаў марозу.

**Вера ЧЫЖЫК, супрацоўнік Белгідрамета.**

### БЕЛАРУСЬ РЫХТУЕЦЦА ПАКАРЫЦЬ ГЕРМАНІЮ

**Альбом пад назвай «Беларусь» стане своеасаблівым даведнікам па беларускіх стэндах на Гановерскім універсальным кірмашы, раскажа аб усіх сферах жыцця нашай рэспублікі. Да адкрыцця кірмашу ў Германіі ў красавіку гэтага года ён будзе выдадзены на беларускай, нямецкай і англійскай мовах.**

Так вырашыў аргкамітэт па падрыхтоўцы экспазіцыі рэспублікі і правядзенні Дзён эканомікі Беларусі на гэтым прэстыжным міжнародным аглядзе тавараў.

**БЕЛТА.**

### АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНУЮ ШКОЛУ ЧАКАЕ РЭФОРМА

**Да 1 ліпеня 1996 года распрацаваць канцэпцыю і праграму рэформы агульнаадукацыйнай школы — такое даручэнне Міністэрству адукацыі зрабіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Гэта распараджэнне ён прыняў у мэтах фарміравання эфектыўнай нацыянальнай сістэмы адукацыі, якая адпавядае задачам грамадскай трансфармацыі і патрэбам дзяржавы.**

Кіраўнік дзяржавы даручыў Мінфіну выдзеліць у гэтым годзе Мінадукацыі неабходныя сродкі для навукова-метадычнага забеспячэння распрацоўкі канцэпцыі. Кабінету Міністраў прапанавана распрацаваць прапановы па кадраваму забеспячэнню рэформы з улікам новых навукова-метадычных і арганізацыйна-кіраўніцкіх функцый Мінадукацыі.

Галоўнаму ўпраўленню грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь даручана арганізаваць шырокае грамадскае абмеркаванне канцэпцыі і праграмы рэформы агульнаадукацыйнай школы ў сродках масавай інфармацыі.

**БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### ЗЯЛЁНЫЯ «ВАЎКІ» ПАКІНУЛІ КРЫВАВЫ СЛЕД

**У Кізляры сапёры працягваюць размініраванне бальніцы, якая на працягу сутак знаходзілася пад кантролем чачэнскіх тэрарыстаў.**

Учора раніцай аўтакалона з чачэнскімі тэрарыстамі, 165 заложнікамі і членамі ўрада Дагестана пакінула Кізляр і накіравалася ў Гудэрмес. Аднак у раёне сяла Першамайскае, на мяжы Чачні і Дагестана, яна спынілася. Паводле даных Міністэрства ўнутраных спраў Расіі, затрымка калоны з 11 аўтобусаў і двух «КамАЗаў» выклікана тым, што тэрарысты выставілі новыя патрабаванні, быццам бы не прадугледжаныя першапачатковымі дамоўленасцямі. Лідэр тэрарыстаў Радуеў (зяць Дудаева) настойвае на тым, каб на тэрыторыі Чачні калону суправаджалі прадстаўнікі ўнутраных войскаў Расіі. Калону кантралююць 250 баевікоў.

Пакуль незразумела, чаму тэрарысты, якія збіраліся стаяць да канца ў выпадку, калі іх патрабаванні аб вывадзе расійскіх войскаў з тэрыторыі Чачні, прызнанні Дудаева прэзідэнтам рэспублікі і заканчэнні ваенных дзеянняў, якія накіраваны супраць Чачні, не будуць выкананы, пагадзіліся пакінуць горад і вызваліць большасць з 2000 заложнікаў. Аднак і за суткі «ваўкі» (так яны сябе называюць) паспелі пакінуць у Кізляры жахлівыя сляды свайго знаходжання: у выніку перастрэлак загінулі 5 супрацоўнікаў міліцыі, 12 атрымалі раненні і двое зніклі без вестак. У аўторак у другой палове дня, былі расстраляны двое заложнікаў.

Прэм'ер-міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін заявіў учора раніцай, што бандыты, якія захапілі заложнікаў, абавязкова панясуць пакаранне, аднак пакуль незразумела, як уладам удасца гэта ажыццявіць.

На думку экспертаў, атака на Кізляр у многім нагадвае напад атрадаў Басаева на Будзёнаўск, у выніку якога загінула больш за 100 чалавек.

Развязка будзёнаўскай трагедыі была надзвычай простай — тэрарыстам гарантавалі свабодны праход у Чачню ў абмен на вызваленне заложнікаў. Сёння пакуль што ўсё рухаецца да таго, што кізлярскі канфлікт будзе мець такое ж заканчэнне.

**Сяргей ПРОТАС.**

### ПРЫВЕДЗЕНЫ Ў ВЫКАНАННЕ

**Час ад часу ў прэсе з'яўляюцца паведамленні аб тым, што суды прысуджаюць злачынцаў да выключнай меры пакарання -- расстрэлу. А колькі такіх прыгавораў прыведзена ў выкананне?**

Як стала вядома з кампетэнтных крыніц, летась да пакарання смерцю абласныя і мінскі гарадскі суды прыгаварылі 47 злачынцаў. У адносінах да 26 чалавек гэтыя прысуды прыведзены ў выкананне. Астатнія справы пакуль знаходзяцца на разглядзе або ў Вярхоўным судзе, або ў Прэзідэнта краіны.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

# Сямён Шарэцкі выбраны Старшынёй Вярхоўнага Савета

Дзве тэмы былі галоўнымі ў Вярхоўным Савеце 10 студзеня: выбары спікера і пытанне асвятлення сесіі сродкамі масавай інфармацыі. Другое пытанне набыло асабліва востры сэнс у сувязі з прыкрай недарэчнасцю: у прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета, дзе знаходзіцца большасць акрэдытаваных журналістаў, адключылі тэлеманіторы, і калегі не маглі сачыць за тым, што адбываецца ў Авальнай зале. Начальнік упраўлення інфармацыі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Васіль Вараб'ёў у роспачы разводзіў рукамі: напярэдадні па камандзе ад кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі ў Авальнай зале былі спешна дэманціраваны перасоўныя тэлеўстаноўкі, якія заўсёды працавалі на прэс-цэнтр. Такім чынам, некалькі соцень беларускіх і замежных журналістаў страцілі магчымасць назіраць за дзейнасцю Вярхоўнага Савета, а ў саму залу пропускі атрымалі толькі 38 журналістаў. Дэпутаты, што называецца, увайшлі ў становішча і па прапанове С. Шушкевіча прагаласавалі за дазвол усім журналістам прайсці ў Авальную залу або на балкон.

На гэтым тэма асвятлення дзейнасці ВС сродкамі масавай інфармацыі не была закрыта. Старшыня рэдакцыйнай камісіі Леанід Юнчык прадставіў дэпутатам адпаведны праект пастановы па гэтым пытанні, які, аднак, быў жорстка раскрытыкаваны парламентарыямі. Рэдакцыйная камісія ўлічыла ўсе прапановы і заўвагі ад дэпутатаў і структур выканаўчай улады, тэлебачання і прапанавала настолькі кампрамісны варыянт, што ён пазбаўляў ужо Вярхоўны Савет магчымасці аб'ектыўна прадстаўляць сваю дзейнасць. Не былі ўлічаны прапановы аб трансляцыі па тэлебачанні раздзела «Рознае», аб штотыднёвай «Парламенцкай гадзіне», аб трансляцыі пасяджэнняў па радыё і інш. Разам з тым, як заўважыла дэпутат Вольга Абрамава, такая пастанова ўтрымлівае ў сабе пагрозу маніпуляцыі і цэнзуры



Час выбіраць.

і можа прывесці да парушэння правоў парламента і права грамадзян на інфармацыю. У цэлым дэпутаты згадзіліся накіраваць праект пастановы на дапрацоўку.

З раніцы адбыліся дыскусіі па ўсіх пяці кандыдатурах, якія прайшлі без надта вострых спрэчак, і дэпутаты падтрымалі ўсе вылучаныя кандыдатуры, акрамя В. Кебіча, які ўзяў самаадвод. Аднак перад зацвярджэннем агульнага спіса для галасавання адбылася яшчэ адна неспадзяванка: Пятро Краўчанка па волі рашэння фракцыі сацыял-дэмакратаў аб'явіў аб зняцці сваёй кандыдатуры на карысць Сямёна Шарэцкага. Такім чынам, шанцы апошняга на абранне старшынёй узраслі.

Каля гадзіны дня дэпутаты пачалі галасаванне па чатырох кандыдатурах: Станіслава Багданкевіча, Мечаслава Грыба, Сяргея Калякіна і Сямёна Шарэцкага. Галасаванне адбывалася тайна, з выкарыстаннем бюлетэняў, праз т. зв. «кабінкі».

Па выніках галасавання ніхто не быў абраны Старшынёй Вярхоўнага Савета. Станіслаў Багданкевіч атрымаў 38 галасоў у сваю падтрымку, Мечаслаў Грыб — 18, Сяргей Калякін — 50, Сямён Шарэцкі — 51. 40 дэпутатаў выкраслілі ўсе кандыдатуры. Удзельнічалі ў галасаванні 197 бюлетэняў. Несапраўдных бюлетэняў не было. Паводле папярэдняй дамоўленасці паміж фракцыямі аграрыяў і камуністаў, у выпадку, калі ў другі тур выходзяць іх прадстаўнікі, то той, хто атрымаў менш галасоў, абавязаўся зняць сваю кандыдатуру. Адзін голас фактычна вырашыў лёс прэтэндэнта на спікерскую пасаду на карысць Шарэцкага. Пасля зацвярджэння пратакола галасавання Сяргей Калякін выказаў жаданне зняць сваю кандыдатуру.

Аднак у сувязі з тым, што такое рашэнне магло б выклікаць пэўныя юрыдычныя калізіі, ён проста заклікаў усіх сваіх аднадумцаў, якія за яго галасавалі, аддаць свае галасы Сямёну Шарэцкаму і паабяцаў тое ж самае зрабіць і са сваім уласным голасам.

Мечаслаў Грыб і Станіслаў Багданкевіч, падзякаваўшы тым, хто за іх галасаваў, таксама заклікалі іх падтрымаць кандыдатуру Шарэцкага. «Я чакаў напалову меншую падтрымку, — заявіў Станіслаў Багданкевіч, — таму лічу вынік асабістай перамогай.»

Пры паўторным галасаванні 108 дэпутатаў прагаласавалі за кандыдатуру Сямёна Шарэцкага, 88 — супраць. Такім чынам, ён выбраны Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі і прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.

Сёння ў парламенце — праца ў фракцыях па ўзгадненню кандыдатур намеснікаў Старшыні і кіраўнікоў парламенцкіх камісій.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Аб чым гаварылі кандыдаты на спікерскае крэсла?

**Калі выйдзе ў свет гэты нумар газеты, магчыма, ужо будуць вядомы вынікі выбараў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Тым не менш, уяўляе цікавасць тое, аб чым гаварылі кандыдаты на спікерскае крэсла ў сваіх перадвыбарных прамовах.**

9 студзеня на вячэрнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета, калі дэпутаты прыйшлі да першага пункта парадку дня — выбары старшыні парламента — і старшынствуючы (А. Абрамовіч, кіраўнік Цэнтравыбаркома) заклікаў вылучаць кандыдатуры, у зале пачуўся агульны ўздых нерашучасці: ніхто з фракцый не рашаўся першым прапанаваць даўно абгавораную і зацверджаную кандыдатуру. Гэтым як бы была падкрэслена важнасць моманту. І пазней, калі праз паўгадзіны завяршылася вылучэнне, даўшы даволі сціплы вынік (спіс з шасці вельмі вядомых прозвішчаў), адчулася, што настрой парламентарыяў у гэтым пытанні быў далёкім ад авантурыстычнага. Былі вылучаны даўно вылічаныя журналістамі кандыдатуры, адобраныя на пасяджэннях фракцый і пленумаў: першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін, лідэр АГП Станіслаў Багданкевіч, кіраўнік Аграрнай партыі Сямён Шарэцкі, экс-прэм'ер Вячаслаў Кебіч (ад фракцыі «Згода»), былы міністр замежных спраў ва ўрадзе апошняга Пятро Краўчанка — ад сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Беларусь», і незалежны кандыдат Мечаслаў Грыб, які 9 студзеня склаў паўнамоцтвы спікера Вярхоўнага Савета мінулага склікання. Такім чынам, ніякіх нечаканасцей, поўная сур'ёзнасць намераў. Што, аднак, не можа гарантаваць станоўчага выніку, бо галасы падзелены паміж фракцыямі, якія так і не здолелі дагаварыцца аб адзінай кандыдатуры. Відаць, дамаўляцца будзе лягчэй, калі тайнае галасаванне выявіць сапраўдны рэйтынг вылучаных фракцыямі прэтэндэнтаў на пасаду спікера.

Такім чынам, увечары 9 студзеня парламентарыі змаглі заслухаць шэсць перадвыбарных прамоў. **Сяргей КАЛЯКІН,** першы сакратар ЦК ПКБ, былы старшыня Савецкага райсавета г. Мінска, а пасля адпаведнага ўказа А. Лукашэнкі аб скасаванні райсаветаў у гарадах — беспрацоўны, нагадаў, што Канстытуцыяй прадугледжана, што асноўныя кірункі ўнутранай і знешняй палітыкі нашай дзяржавы вызначае Вярхоўны Савет у цэлым, а не яго старшыня.



Таму С. Калякін палічыў немэтазгодным вызначаць праграму дзейнасці парламента, а спыніўся толькі на асноўных прынцыпах, якія ён, як верагодны старшыня парламента, будзе выконваць. Па-першае, дзяржава павінна жыць па Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законах, а калі каго-небудзь іх палажэнні не задавальняюць, то іх можна мяняць толькі ў заканадаўча ўстаноўленым парадку. І прыклад законапаслушэнства, на думку С. Калякіна, павінны паказваць кіраўнікі краіны самага высокага рангу. Другі прынцып С. Калякіна — неабходнасць канструктыўнага дыялогу і пастаяннага пошуку разумных кампрамісаў розных палітычных сіл у парламенце, кансалідацыя намаганняў усяго дэпутацкага корпуса. Выказаўшы некалькі заўваг адносна арганізацыі працы Вярхоўнага Савета і заканатворчасці, С. Калякін заўважыў, што неабходна ўзмацніць кантрольныя функцыі парламента за выкананнем законаў. Прыярытэтным у дзейнасці ВС на бліжэйшы перыяд С. Калякін назваў забеспячэнне заканадаўчых умоў для стварэння эфектыўнай эканомікі. «У выпадку абрання мяне старшынёй я маю намер няўхільна процідзейнічаць спробам націску на Вярхоўны Савет з дапамогай матэрыяльна-фінансавых рычагоў, ад каго б гэта ні зыходзіла», — заявіў лідэр камуністаў.

Сярод пытанняў да С. Калякіна можна вылучыць два: адносна яго нацыянальнасці, з падтэкстам, што ён не беларус, і заўвагу дэпутата Ю. Малумава, які заявіў, што кіраўнік выканаўчай улады не хацеў бы бачыць на пасадзе спікера камуніста. На апошняе С. Калякін адказаў, што ён не мае сур'ёзнага пацвярджэння падобнай чуткі і што пасада Старшыні ВС не ўплывае на працідзеянне парламента і Прэзідэнта, практычная дзейнасць дакажа, што можна канструктыўна супрацоўнічаць, шукаць шляхі да згоды на прынцыпах захавання Канстытуцыі і законнасці. У сувязі з гэтым пытаннем А. Лукашэнка ўзяў слова і заявіў, што любы Старшыня ВС будзе ім успрыняты як выбар парламента. Яшчэ адзін раз гучала тэма адносінаў Прэзідэнта і парламента ў сувязі з пытаннем дэпутата П. Знаўца, які шчыра пацікавіўся, якім чынам камуністы будуць выконваць свае праграмныя палажэнні па ліквідацыі інстытута прэзідэнцтва. «Гэта пытанне вырашае не кіраўнік Вярхоўнага Савета, а ўвесь Вярхоўны Савет, — адказаў С. Калякін.— Мы сапраўды выступаем за парламенцкае праўленне, але мы паважаем выбар народа, які абраў Прэзідэнта, і не бачым неабходнасці ставіць пытанне аб скасаванні пасады Прэзідэнта».

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ** падкрэсліў, што сваё вылучэнне ён разглядае як ацэнку магчымасцей дэмакратычных, рэфарматарскіх сіл у нашым парламенце, як магчымасць даведацца, «колькі нас», колькі такіх, якія разумеюць, што камуністычны эксперымент праваліўся, што народу Беларусі гісторыя падарыла незалежнасць, дзяржаўнасць, якія не павінны стаць разменнай манетай, што няма іншага шляху, акрамя стварэння эфектыўнай сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі.



Мэта, якая стаіць цяпер перад парламентам, — не згубіць і ўзмацніць сваю годнасць, — зазначыў С. Багданкевіч. «У цяжкіх умовах выбраны Вярхоўны Савет, на фоне прыніжэння парламентарызму у грамадскай думцы, пры байкоце выбараў з боку выканаўчай улады і дэзінфармацыі. І тым больш дастойны выбар народа. Наш парламент — такая ж законная, абраная народам улада, як і Прэзідэнт. І паводзіць мы сябе павінны як роўныя галіны ўлады!..»— шчыра гаварыў вылучэнец фракцыі лібералаў «Грамадзянскае дзеянне» С. Багданкевіч. Яго выступленне было ўспрынята як палітычны маніфест фракцыі.

Прычынай крызісу, які перажывае наша грамадства, ён назваў тое, што старая эканамічная і палітычная сістэма надламаная, а новая не створана. Старая сістэма загнівае, аганізуе і атручвае арганізм, і калі яе не ліквідаваць, магчымы летальны зыход... Зважаючы на левую большасць парламента, С. Багданкевіч вельмі крытычна ацаніў ранейшую адміністратыўную эканамічную сістэму. «Сабатаж правядзення рыначных рэформаў, таптанне на месцы, спроба Прэзідэнта аднавіць цэнтралізаванае каманднае кіраванне эканомікай сведчыць аб неразуменні крыніц крызісу. Жыццё ўсё роўна прымусіць правесці рыначныя рэформы. Спроба адысці ад іх, вярнуцца ў светлае мінулае, адгарадзіцца ад еўрапейскай цывілізацыі толькі зацягнуць хваробу нашай эканомікі», — зазначыў С. Багданкевіч, пераконваючы прысутных у вострай неабходнасці рыначных рэформаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, стварэння рыначных інстытутаў, развіцця малога і сярэдняга бізнесу, прыцягнення замежных інвестыцый.

«Я лічу, што прамы абавязак парламента — уступіць у самую жорсткую канфрантацыю з тымі інстытутамі дзяржавы, асобамі, якія парушаюць Канстытуцыю і законы. Адным з першых дзеянняў Вярхоўнага Савета павінна стаць заява аб выкананні ўсіх рашэнняў Канстытуцыйнага суда, а Генеральнаму пракурору неабходна прыцягнуць да адказнасці ўсіх службовых асоб, якія не выконваюць гэтыя рашэнні», — заявіў С. Багданкевіч. Сярод вострых негатыўных момантаў нядаўняга мінулага ён назваў адхіленне папярэдняга парламента ад рэгулявання бюджэту, самазахоп яго выканаўчай уладай, што прывяло да таго, што ўсе дзяржаўныя грошы аказаліся ў кішэні Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрада і засталіся без кантролю. Неабходна аднавіць кантроль Вярхоўнага Савета над дзяржаўнымі даходамі і расходамі, — заявіў С. Багданкевіч, які выступіў таксама ў абарону свабоды сродкаў масавай інфармацыі: «Улада, якая баіцца пачуць праўду аб сваёй палітыцы, — слабая ўлада. Дзяржаўныя тэлебачанне і радыё, якія ўтрымліваюцца на народныя грошы, не павінны манапалізавацца Прэзідэнтам, парламентам ці кім яшчэ...»

Да С. Багданкевіча таксама было шмат пытанняў, што датычыліся эканомікі, дзейнасці банкаў і інш.

**Сямён ШАРЭЦКІ,** кандыдат ад фарміруемай фракцыі аграрыяў, які лічыцца адным з фаварытаў гэтых выбараў, акцэнтаваў увагу на неабходнасці пошуку ўзаемаразумення паміж парламентам і Прэзідэнтам, каб разам і спакойна знайсці выйсце са складанага становішча, у якім аказалася наша маладая дзяржава. Гэтая тэма — супрацоўніцтва ўсіх галін улады — была скразной у прамове С. Шарэцкага, які выступаў за ўзаемную павагу, павышэнне аўтарытэту ўсіх органаў улады.

«Аграрная партыя, і я ў тым ліку, маем пункт гледжання наконт неабходнасці стварэння ў нашай краіне рыначнай шматукладнай кіруемай эканомікі. Клікаць людзей у мінулае — значыць пазбаўляць іх будучыні. У дэмакратычным грамадстве асоба і ўласнасць павінны быць недатыкальныя... Пры ажыццяўленні эканамічных рэформаў трэба пастарацца як мага меней разбурыць матэрыяльную базу буйной вытворчасці. І таму раздзяржаўленне і прыватызацыю трэба падзяліць на малую і вялікую. Малую прыватызацыю трэба правесці хутка, пажадана за грошы, а не чэкі. Вялікую прыватызацыю на першым этапе трэба абмежаваць прыватызацыяй кіравання і вынікаў працы, а не ўласнасці на сродкі вытворчасці. Зрабіць гэта можна з дапамогай арэнды. А вельмі буйныя заводы, энергетыка, сувязь, медыцына, асвета і ў будучым павінны заставацца дзяржаўнымі», — выказаў С. Шарэцкі сваё бачанне эканамічных



праблем і перспектыў Беларусі. Ён падкрэсліў, што аграрнікаў несправядліва называюць лабістамі сельскай гаспадаркі і зазначыў, што ў АПК таксама трэба праводзіць рэформы, але нельга пры гэтым разбураць матэрыяльную базу буйной вытворчасці. С. Шарэцкі выступіў таксама супраць прыватызацыі зямлі. Выказаўся ён і яшчэ па адным вострым для левых сіл пытанні: «Нам трэба перастаць падманваць людзей, што як быццам можна аднавіць Савецкі Саюз. Гэта толькі цешыць іх нязбытнымі надзеямі і не накіроўвае на неабходнасць умацавання сваёй дзяржавы. Мы павінны пашыраць нашы адносіны з Расіяй, але думаць, што мы заўтра з ёй аб'яднаемся, ці што яна нешта будзе прадаваць нам за паўцаны — гэта значыць быць проста наіўнымі людзьмі. Трэба пашыраць і ўмацоўваць сувязі і з іншымі дзяржавамі».

Выказаўся С. Шарэцкі і аб неабходнасці падтрымкі навукі і культуры: «Культура вызначае твар нацыі, а наша беларуская нацыя перажывае стадыю свайго адраджэння, і тут дзяржава павінна быць у пэўнай ступені бабкай-павітухай, яна павінна дапамагчы аднавіцца нашай нацыі і атрымаць беларускія абрысы. Важна знайсці меру, каб не заразіць грамадства бацылай нацыяналізму і не згубіць свой беларускі твар».

**Вячаслаў КЕБІЧ,** якога многія лічылі адным з рэальных прэтэндэнтаў на крэсла спікера, здзівіў сваёй адмовай балаціравацца на гэтую пасаду. Гэта было нечаканым крокам і для аб'яднання «Згода», якое вылучыла яго. Аднак некаторыя назіральнікі ўбачылі ў гэтым учынку В. Кебіча і магчымую тактыку, прадыктаваную жаданнем удзельнічаць у выбарах у наступным туры, калі гэты з-за няўзгодненасці галасавання фракцый вынікі не дасць. Сам В. Кебіч аргументаваў сваю адмову ад вылучэння на пасаду спікера тым, што ён не хацеў бы, каб яго кандыдатура выклікала спрэчкі і супярэчнасці ў парламенце.

Тым не менш, В. Кебіч заявіў, што ён гатовы актыўна працаваць у гэтым Вярхоўным Савеце, а таксама дапамагаць ураду і Прэзідэнту ў вырашэнні эканамічных праблем.

**Пётр КРАЎЧАНКА** пачаў з закліку да яднання незалежна ад поглядаў у імя Беларусі і яе народа. «Галоўная функцыя Старшыні ВС — аб'яднаць, кансалідаваць дзейнасць дэпутатаў, эфектыўна арганізаваць іх працу, — зазначыў ён. — Зараз трэба вярнуць парламенту давер народа, зрабіць яго аўтарытэтнай галіной улады, калектыўным сумленнем нацыі».

Гаворачы аб прынцыпах дзейнасці парламента, яго заканатворчасці, П. Краўчанка прывёў тэзіс, што можна ўвесь час умешвацца ў той ці іншы працэс, а можна карэнным чынам змяніць правілы гульні, і ўсё стане на свае месцы. Адносна формаў уласнасці на зямлю, мяркуе П. Краўчанка, рашэнне трэба прымаць на агульнанацыянальным рэферэндуме. Выказаўся ён і за спрашчэнне падатковай сістэмы, паскарэння прыватызацыі, абарону айчыннага рынку сельскагаспадарчых тавараў, карэкціроўку мытных тарыфаў, якія шкодзяць эканоміцы, за змяншэнне падаткаў за транзіт, які трэба браць не выбарачна, а з прадстаўнікоў усіх дзяржаў і інш. П. Краўчанка прапанаваў пачаць індэксацыю ўкладаў за кошт каштоўных дзяржаўных папер.

Шырока выказаўся П. Краўчанка па комплексу знешнепалітычных праблем: аб кампенсацыі Беларусі за вывезены разам з ракетамі уран, аб нейтралітэце нашай краіны як стратэгічнай мэце, аб усходнееўрапейскай эканамічнай супольнасці як шанцы для развіцця нашай эканомікі, аб «фінляндызацыі» нашых адносінаў з Расіяй — г. зн. усталявання партнёрскага і раўнацэннага супрацоўніцтва па прыкладу супрацоўніцтва Фінляндыі з СССР. Менавіта па міжнародных праблемах была большасць пытанняў да кандыдата на пасаду старшыні П. Краўчанкі з боку дэпутатаў.

**Мечаслаў ГРЫБ** у сваім выступленні адзначыў:

— У знешняй палітыцы Рэспублікі Беларусь мы павінны адстойваць суверэнітэт дзяржавы, у поўнай меры выкарыстоўваючы момант відавочнай на сённяшні дзень сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў нашай краіне. Я ўдзячны за гэта лёсу і вітаю стрыманасць і адпаведную мудрасць палітычных сіл, наогул кіраўніцтва нашай дзяржавы. Дзякуй Богу, што ў нас хапіла розуму і вытрымкі не дапусціць ваенных канфліктаў і не дазволіць нашым вайскоўцам прыняць удзел у іх за межамі Рэспублікі Беларусь. Гэта наша перамога, якую трэба захоўваць і ў будучым, таму што ніякія абгрунтаванні, ніякая мэтазгоднасць, ніякія грошы не змогуць вярнуць бацькам загінуўшага сына або дачку.

Рэспубліка Беларусь абвясціла сябе бяз'ядзернай дзяржавай і далучылася да адпаведных міжнародных пагадненняў.

Наша мэта — пашырэнне ўдзелу ў міжнародных парламенцкіх аб'яднаннях. Трэба прыкласці ўсе намаганні, каб як мага хутчэй уступіць у Савет Еўропы і Еўрапейскі саюз. Гэта дазволіць нам ва ўсіх галінах жыцця быць разам з усім цывілізаваным светам, і перш за ўсё ісці ўпоравень з еўрапейскімі краінамі.

У галіне знешнеэканамічных сувязей я прытрымліваюся той думкі, што мы павінны аддаваць прыярытэт Усходу, і ў першую чаргу адносінам з Расіяй, а таксама з Украінай, іншымі краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Разам з тым мы павінны пашыраць сувязі з краінамі Захаду на падставе ўзаемавыгадных міжнародных дагавораў і двухбаковых пагадненняў. Для ажыццяўлення гэтага накірунку знешнеэканамічных сувязей нам неабходна змяніць дзеючае заканадаўства аб замежных інвестыцыях, зрабіць яго больш дасканалым і прывабным для тых, хто захоча ўкласці свае грошы ў нашу эканоміку, і даць ім гарантыю, што яны не будуць падманутымі ні з боку ўрада, ні з боку якіх-небудзь палітычных плыняў. Рабіць гэта трэба толькі заканадаўча.

Ва ўнутранай эканамічнай палітыцы мы павінны ісці па шляху рыначнай многаўкладнай эканомікі, эфектыўных, добра збалансаваных у сацыяльным плане рэформаў. Нельга ўводзіць людзей у зман, сцвярджаючы, што ў Беларусі нейкія асаблівыя шляхі выйсця з крызісу, асаблівыя эканамічныя законы, іншыя, чым у другіх краінах. Гэта памылка. Мы такія ж, як і ўсе, і выйсці з крызісу зможам толькі самі, сваім розумам і сваёй працай.

Гэта павінна рабіцца неадкладна, часу на роздум і ўсялякія ваганні ўжо няма. Затрыманне гэтага працэсу на месцы азначае толькі адно — адступленне назад. А назад таксама дарогі няма — гэта бездань. Мы павінны ісці толькі наперад. Але спачатку трэба канчаткова вызначыцца наконт таго, якую дзяржаву і якое грамадства мы будуем. І не па назве, а па змесце, каб наша мэта была зразумелай кожнаму грамадзяніну рэспублікі.

І наогул, нельга існаваць без вялікай мэты цэлай краіне. Бо калі яна, гэта мэта, будзе, то дапаможа кожнаму яе грамадзяніну ўсвядоміць сваё месца ў грамадстве, сваё прызначэнне. Гэта дасць новы штуршок праяўленню магчымасцей нашых працавітых, здольных на вялікія здзяйсненні людзей, зробіць іх жыццё асэнсаваным, а значыць грамадства — здольным, мабыць, на нябачныя дагэтуль дасягненні...

Нам, дэпутатам трынаццатага склікання, неабходна ўсвядоміць, што ад нашай заканатворчай дзейнасці залежыць вельмі многае як у ажыўленні і станаўленні эканомікі, так і ў развіцці палітычных працэсаў у краіне.

У сваіх дзеяннях я імкнуся і буду імкнуцца свята прытрымлівацца Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Для мяне не існуе праблемы ўлады. Я цвёрда ўпэўнены ў тым, што на сённяшні дзень яе хапае ўсім — заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладам. Трэба толькі, каб кожная з іх займалася сваёй справай і не ўмешвалася ў функцыі іншых галін улады, як гэта здаралася ў апошні час.

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА і Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

ФОТАСЛОВА

*Мінскаму мастаку Анатолю ГРЫШКО з пажаданнямі, каб на Беларусі яго праца была гэтак жа добра вядома, як і за мяжою.*

Яўген ПЯСЕЦКІ.

*Калі сняцца льды*
*І за крок да бяды —*
*Ты ратуй мяне, ветка вярбы.*

*Калі з бацькавых сцежак*
*Мае змыты сляды —*
*Ты даруй мне, галінка вярбы.*

*Калі я заблукаю*
*У чужынскіх краях —*
*Дачакайся, галінка мая.*

*Ў наша поле вярнуся,*
*З тваім сокам сальюся,*
*Будзем разам, вярбінка мая.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ГЛЫБІНКІ

# ЗА ШТО ПРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ ЯГОР КУЗЬМІЧ?

**Даўно тое было. На пачатку пяцідзесятых, пры Сталіне. Калі за падабраныя без дазволу высокага начальства каласкі з калгаснага поля можна было «загрымець пад фанфары» ў турму. Дык вось, у адзін з кароткіх лістападаўскіх дзён старшыня калгаса «Чырвоная Зорка» Ягор Казлоў на коніку аб'язджаў сваю гаспадарку. І з тае прычыны, што па натуры ён быў мужык учэпісты, з моцнай хваткай да ўсяго, за што браўся, і на першы план заўсёды ставіў дысцыпліну, то, як гаворыцца, заглядваў у кожную дзірку: на збожжаскладзе, ферме, канюшні. З'ездзіў і на луг, падлічыў стажкі з сенам — усё ў парадку. Ніхто не абскуб іх, не вырваў ніводнага ахапка. Ляжа снег — па саннай дарозе сена трэба будзе перавезці на калгасную сядзібу. Зазірнуў на поле. Салома, як і мае быць, у сціртах акуратна складзена. І тут слядоў крадзяжу не відаць. А вось і асаблівая радасць старшыні — сцірта лёну. Па ўраджайнасці даўгунцу «Чырвоная зорка» ўжо два гады запар трымала ў раёне першынство. Гэта культура, можна сказаць, надзея гаспадаркі. За перавыкананне плана паставак ільну дзяржаве можна атрымаць неблагія грошы. А за іх набыць сякую-такую тэхніку.**

Абышоў Ягор Кузьміч сцірту і нечакана метрах у васьмі-дзевяці ад яе ўгледзеў снапок ільну, які адзінока ляжаў на ўжо замёрзлай зямлі. Адкуль ён? Ветрам скінула зверху? Дык не было ж таго ветру. Жывёліна якая сарвала са сцірты і занесла сюды? Не можа быць такога: ні коні, ні каровы лён не спажываюць. А што калі зладзюга нейкі панадзіўся сюды хадзіць? З гэтай думкай старшыня яшчэ раз абышоў сцірту, пільна-пільна прыглядваючыся да кожнага снапка, адшукваючы месца, дзе павінен быў ляжаць той, што апынуўся на зямлі. Не, нідзе няма тут месца для яго. А што калі ён выцягнуты знутры сцірты і яго незнарок згубілі?

І старшыня пачаў старанна абмацваць сцірту, шукаць у ёй пралаз, бо ўжо не сумняваўся, што тут папрацавалі спрытнюгі-зладзеі, якія ўмеюць хаваць канцы ў ваду. Яны робяць пралаз у сцірце, выдзіраючы з яе нутра снапы, а потым акуратна застаўляюць яго снапамі. Крадзенае цягнуць дадому. А той снапок у цемры згубіўся, выпаў непрыметна.

Праз хвіліны тры Ягор Кузьміч намацаў пралаз і ажно спацеў: ого, у сцірце цэлы тунель. Шмат адсюль выбрана льну. Толькі кім? У думках ён доўга перабіраў магчымых зладзеяў калгаснага дабра і сышоўся на адным: без удзелу палявога вартаўніка Фёдара Свірыдава тут не абышлося. Па начах ён са сваімі двума сабакамі робіць абходы, і ніхто з вяскоўцаў не адважыцца без дай прычыны сноўдацца там без яго. Няйначай сам Фёдар нячысты на руку або запусціў у сцірту сваіх родзічаў.

Але, як гаворыцца, не злоўлены — не злодзей. І старшыня вырашыў узяць зламысніка на месцы злачынства. Адзін, без нічыёй дапамогі. Бо франтавы разведчык, на рахунку якога было шэсць дастаўленых у штаб нямецкіх «языкоў», страху не ведаў. Таму, апрануўшы на сябе даўжэзны, да самых пятак кажух і ўсцягнуўшы на ногі цёплыя валёнкі, ён у той жа вечар залёг у тунелі. Недзе а другой гадзіне ночы, калі яго пачаў адольваць сон, Ягор Кузьміч пачуў ціхую гаворку. Жанчыны. Старшыня натапырыў вушы. Дудкі: нічога не разабраць і галасоў не пазнаць. Трэба чакаць. Ён яшчэ болей уціснуўся ў лён і спружыніўся, нібы кот перад скачком на мыш. І вось нехта моўчкі пачаў таропка адкідваць у бок снапкі, вось ужо пралаз вызвалены ад іх, і жанчына пралезла ў тунель. Яна была на адлегласці выцягнутай рукі ад старшыні, калі здарылася нечаканае. Якраз у гэты самы момант нешта так заказытала ў носе Ягора Кузьміча, што ён з усяе сілы чхнуў. Жанчына як апантаная кінулася прэч, а за ёй і астатнія, што знаходзіліся каля сцірты. Выпаўзшы з тунеля, старшыня хвіліны паўтары хапаў свежае паветра, а потым, падняўшы з зямлі пакінуты ў спешцы трафей — посцілку, разасланую на зямлі для ўкладкі туды снапкоў, патэпаў у бок вёскі. Раніцай ён паказаў Фёдару Свірыду посцілку, якую быццам бы знайшоў каля яра, і заклапочана пацікавіўся, чыя яна можа быць, каб вярнуць гэтую патрэбную рэч гаспадару. А сам цікаваў за вартаўніком: як і чым той выдасць сябе. Той жа без хвіліны роздуму заявіў:

— Посцілка маёй суседкі, Ганны Лагуновай яна. Гэта і калгаснай кабыле зразумела.

— А не памыляешся, Сямёнавіч?

— Крыўдзіш, старшыня. Ганніна яна. Як піць даць.

— Ну то і добра.

На тым і разышліся. Старшыня сядзеў за сталом і думаў: што рабіць? У Ганны Лагуновай трое дзяцей. Старанная, працавітая. Мужык яе склаў галаву недзе пад Варшавай. Цяжка жанчыне. Зрабіць выгляд, што ён, старшыня, нічога не ведае? Нельга так. Увесь калгас расцягнуць. Ды хто — жанкі. Бо ўсе ведаюць, што большай часткай яны, франтавыя ўдовы, крадзяжамі займаюцца. Заявіць у міліцыю? За зябры, чаго добрага, возьмуць маладзіцу, бо вунь які тунель выкапала ў сцірце. І дзецям яе ганьба, пальцам на іхнюю сям'ю будуць паказваць вяскоўцы. Дзе ж тое выйсце, каб, як гаворыцца, і сена было цэлае, і козы сытыя?

Ягор Кузьміч яшчэ доўга меркаваў і так, і гэтак. І прыходзіў да высновы, што і так дрэнна, і гэтак. Правільна, жанкі — галоўная рабочая сіла ў гаспадарцы. Правільна, са зладзеямі змагацца трэба. Але ж дзе тая самая грань, пры якой небяспечна перагнуць палку ў той ці іншы бок? Тут, відаць, цэлая педагогіка патрэбна. Так сказаць, індывідуальны падыход да зладзейкі. Пры калектыўнай зацікаўленасці. І яе, гэту педагогіку, старшыня знайшоў.

У той жа дзень ён завітаў на склад, дзе жанчыны на веялках ачышчалі збожжа. Паназіраў за іхняй работай. Пагутарыў з імі, а Ганне сказаў, каб пасля работы зайшла ў кантору, бо неяк раней звярталася да старшыні з просьбай выдзеліць яе сям'і дапамогу. Якую — напіша ў заяве і прынясе.

Ганна не прымусіла сябе чакаць, прыйшла ў вызначаны час. Ягор Кузьміч запрасіў яе сесці на лаву, пачаў гутарку: як вучацца дзеці, куды мае намер пасля школы ісці старэйшая дачка Валя, ці ачуняла Ганніна маці і г. д. Жанчыну ён слухаў уважліва, спагадаў ёй. А калі дайшла размова да просьбы Ганны, сказаў, што зараз ёсць магчымасць дапамагчы сенам для кароўкі. Праўда, сена тое на лузе, і прывязуць яго, калі выпадзе снег. А калі Ганне нельга пачакаць, дык няхай сама даставіць яго нейкім іншым чынам.

— Ой дзякуй, старшынька, ой дзякуй. Дай вам Бог здароўечка за клопаты. Я ўжо сама прывязу. На тачцы, тачка ў мяне ёсць, — шчабятала жанчына, — добрая тачка.

— А каб сена па дарозе не гублялася, вазьмі, Ганна, вось гэтую рэч, — Ягор Кузьміч падышоў да шафы і, дастаўшы адтуль посцілку, разгарнуў яе.

Жанчына аслупянела і, здаецца, праглынула язык. А старшыня застыў ля акна, моўчкі гледзячы на вуліцу, дзе павольна падалі першыя сняжынкі. Так працягвалася хвіліны дзве-тры. Потым Ганна паваліліся на калені, папаўзла на іх да Ягора Кузьміча, дрыжачымі рукамі ўчапілася ў яго штаны.

— Даруйце, Кузьміч, даруйце. Вінаватая, вінаватая я перад вамі, даруйце... — жанчына заходзілася ў слязах.

Такой рэакцыі ад яе старшыня не чакаў і зараз не ведаў што рабіць. Ганна ж не супынялася, і ён сеў на стул у чаканні, калі яна перастане плакаць: няхай поўнасцю адчуе сітуацыю. Сама, без яго натацый.

— Дык вось як дамовімся, маладзіца, — нарэшце падаў ён свой строгі голас. — Каб усе снапкі сёння ж былі на месцы — раз. І каб калгасныя жанкі — а ты ведаеш хто — больш красці не хадзілі — два. Толькі тады будзе табе даравана тое.

— Усё зраблю, Ягор Кузьміч. Паверце, усё, — лапатала жанчына. — Што хочаце рабіце са мной — біце, рэжце на часткі.

Крадзяжоў у калгасе, пакуль там старшынстваваў Казлоў, не было. Іх нібы карова языком злізала. І самае галоўнае, ніякай гучнай пагалоскі аб тым, дзякуючы чаму яны зніклі, у вёсцы не было. Вось такая педагогіка была ў старшыні «Чырвонай зоркі».

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

***P.S.* *Ледзь не забыў: Ягор Кузьміч прасіў прабачэння ў Фёдара Свірыда. А за што — той і да гэтага часу не змікіціў.***



## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 11 СТУДЗЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**9.55** «Шайбу, шайбу», «Дзяўчынка і леў». Мультфільмы.
**10.30** Банка коміксаў.
**11.00** Музычны салон Элеаноры Язерскай. «Усё пачынаецца з кахання...»
**11.50** «Учора». Маст. фільм (Польшча).
**15.00** Навіны.
**15.15** «Дробязі жыцця». Дак. фільм.
**15.35** «Калі б я быў маім татам». Мультфільм.
**16.10** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Ларыса Геніюш. «Як жыць, дык жыць для Беларусі...»
**16.40** «Залечваюць песняю боль». Тэленарыс.
**17.20** «Вера, Надзея, Любоў». Кампазітар Ігар Лучанок.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Старыя муры шмат чаго нам гавораць...» Тэленарыс.
**18.10** Крэда.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Правінцыя. Рагачоўскі раён.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**22.00** Музычны антракт.
**22.10** «Набожная Марта». Маст. фільм. 2-я серыя.
**23.20** Цёмны пакой. Мадам.
**23.50** «Толькі для дарослых». Мультфільм.
**24.00** Навіны.
**0.15** «Вялікая Мядзведзіца». Кіно і відэа для моладзі.

**ГРТ**

**8.15** «Сакрэт Трапіканкі».
**9.05** «У пошуках страчанага». Дзіна Дурбін. Вядучы Г. Скараходаў.
**9.45** «Клуб падарожнікаў».
**10.30** «Снежныя майстры». Мультфільм.
**10.40** Смак.
**11.10** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**14.20** «Віджыт спяшаецца на дапамогу».
**14.40** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы». Серыял.
**16.00** Рок-урок.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт Трапіканкі». Серыял.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато-Мільён.
**19.00** «Адзін на адзін». Вядучы — А. Любімаў.
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.45** «Зімовая вішня». Маст. фільм. 4-я серыя.
**21.45** Мужчына і жанчына.
**22.25** Ралі Парыж — Гранада — Дакар.
**22.35** «Музагляд».
**23.30** «Т. С. Н.» Серыял.

**Канал «Расія»**

**6.30** Час дзелавых людзей.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.25** Патрабуюцца...
**7.30** Зоркі гавораць.
**7.35** Рытміка.
**7.50** Усяго патроху.
**8.45** Сялянскае пытанне.
**9.05** «Санта-Барбара».
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Мульці-пульці. «Ну, пачакай!»
**10.50** «Камень сноў».
**11.15—11.30** Новая лінія.
**15.05** Там-там навіны.
**15.20** Свята кожны дзень.
**15.30** Кенгуру.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Кліп-антракт. А. Малінін.
**16.55** Ваш партнёр. Расійскія чыгункі.
**17.10** Кіпрас Мажэйка. «Паралелі».
**17.25** «Гісторыя кахання», ці Хет-трык Канстанціна Бескава».
**17.55** «Пецярбургскія тайны». 7-я серыя.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Маскі-шоу.
**21.15**. Астралогія кахання. Л. Успенская.
**21.45** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** «Вобразы кахання». Дзённік кінафестывалю.
**22.50** «У пошуках літаратуры». Праграма Б. Ерафеева.
**23.30** «Заставайцеся ў капелюшы».

**НТБ**

**17.00** «Віні-Пух і дзень клопатаў».
**17.30** Паўгадзіны аб тэнісе.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** «Маленькі магазінчык жахаў». Маст. фільм (ЗША).
**20.40** «Тэфі-96»: хто ёсць хто.
**20.45** Мультфільмы на ноч.
**21.35** «Доктар куін, жанчына-ўрач».
**22.30** Часінка.
**23.20** «Без жылля, без закона». Маст. фільм (Францыя).

**Санкт-Пецярбург**

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Мануэла».
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40** «Назад у школу». Маст. фільм (ЗША).
**15.15** Стыль жыцця.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** Музычны момант.
**16.05** Тэлебліц.
**16.10** Дзіцячае ТБ. «І. Дыхавічны: «Я — выпрабавальнік».
**16.50** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Мануэла».
**19.45** Тэлеслужба бяспекі.
**19.55** «Рэйс 85-85». Частка 2-я.
**20.55** «Залаты Цялец». Забаўляльная праграма.
**22.00** Спорт, спорт...
**22.15** Дзень нараджэння.
**22.20** Асабістая справа.

ПАМЯЦЬ

# ЁН ВАЛОДАЎ ТАЯМНІЦАЙ ЧАСУ

**З кожным годам, які нас аддзяляе ад заўчаснай смерці Генадзя Каханоўскага, мы ўсё больш адчуваем, як нам яго нестае.**

**Нестае беларускаму краязнаўству. Ён адным з першых стаў рупіцца пра яго адраджэнне, разумеючы, што без ведання гісторыі сваёй «малой радзімы», без любові да яе не бывае і ведання гісторыі краіны, любові да радзімы вялікай.**

Заснаваўшы і ўзначаліўшы Беларускае краязнаўчае таварыства, Генадзь Каханоўскі згуртаваў вакол яго багата энтузіястаў — як са сталіцы, так і з самых аддаленых куткоў Беларусі, якія свядома працягвалі лепшыя традыцыі 20-х гадоў. Тагачасныя ўлады добра разумелі, што краязнаўства жывіць дух патрыятызму, незалежніцтва, і таму доўга не рэгістравалі таварыства. Чуліся галасы, што краязнаўства зжыло сябе, што гэта дылетанцкае аматарства. Чуюцца яны і сёння: нашто, маўляў, тое краязнаўчае таварыства, калі мы ўсе ідзём да уніфікацыі — няхай памірае яно натуральнай смерцю...

Між тым, ва ўсёй Еўропе краязнаўства адраджаецца пад крыху іншай назвай — рэгіёназнаўства. Сцвярджаюць нават, што Еўропа XXI стагоддзя будзе Еўропай не народаў, не краін, а макра- і мікрарэгіёнаў. Ствараюцца цэлыя інстытуты рэгіянальных і лакальных праблем, выдаюцца дзесяткі прац, з якіх вынікае, што якраз на лакальным узроўні ўзнікаюць самыя небяспечныя канфлікты, і, каб папярэджваць іх, трэба вывучаць мясцовыя нацыянальныя, рэлігійныя і культурныя традыцыі і тэндэнцыі. Генадзь Каханоўскі прадбачліва разумеў усё гэта. На прыкладзе сваёй роднай Маладзечаншчыны (у шырокім яе сэнсе) імкнуўся асэнсаваць адметнасць гэтага рэгіёна і яго падобнасць да іншых, суседніх. На жаль, паслядоўнікаў у Генадзя Каханоўскага тут аказалася небагата. Выключэнне складаюць (называю тое, што ведаю) Гродзеншчына (Ліда, Наваградак, Карэлічы, Ашмяны, Астравец) і Віцебшчына (Орша, Браслаў, Шаркоўшчына). На Міншчыне (акрамя хіба, Слуцка і Нясвіжа), у тым ліку і ў самім Маладзечне, краязнаўчы рух заглух, чакаючы новых лідэраў. А ў сталіцы, са смерцю Генадзя Каханоўскага і спыненнем фінансавання з боку Міністэрства культуры і друку, перастала існаваць адзіная навуковая структура, якая займалася краязнаўствам, — адпаведны аддзел у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі і навукі. Аказаўшыся без кіраўніка і матэрыяльных сродкаў, супрацоўнікі гэтага аддзела мусілі разысціся, заняцца іншымі праблемамі.

Нестае Генадзя Каханоўскага беларускаму музеязнаўству. Ён доўгі час узначальваў Мінскі абласны краязнаўчы музей з сядзібай у Маладзечне, прыдбаў для яго нямала каштоўных экспанатаў, падабраў супрацоўнікаў, адданых сваёй справе. У выніку безаблічная ўстанова ператварылася ў культурны асяродак, вядомы не толькі ў Маладзечне, не толькі ў вобласці, але і ва ўсёй Беларусі, стала адным з цэнтраў наватарскай музеязнаўчай думкі.

А потым, калі Генадзь Аляксандравіч працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі і ў Нацыянальным цэнтры імя Ф. Скарыны, ён працягваў займацца музеязнаўствам, ужо тэарэтычна асэнсоўваючы яго. Даследаваў гісторыю музеяў у Беларусі, ездзіў па іншых музеях — у Расію, Літву, на Украіну. Выяўляў там рэчы, кнігі, дакументы, якія паходзілі з беларускіх збораў. Пісаў артыкулы і чытаў лекцыі па музеязнаўству. Сёння, праўда, такія ж лекцыі, такія ж курсы чытаюцца і вядуцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім універсітэце культуры. Але без той апантанасці і шырыні поглядаў, якія былі ўласцівы Генадзю Каханоўскаму.

Нестае Генадзя Каханоўскага беларускай гістарычнай навуцы. Ён займаў у гэтай навуцы асаблівае месца, працуючы на сумежжы многіх дысцыплін — гісторыі, краязнаўства, літаратуразнаўства, этнаграфіі, фалькларыстыкі, мовазнаўства. Пра такую комплекснасць падыходу сведчаць асноўныя кнігі Генадзя Каханоўскага — «Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст.» і «Адчыніся, таямніца часу» (абедзве выйшлі ў 1984 годзе).

Выбраная даследчыкам сінтэтычная прызма дазваляла бачыць новыя з'явы мінулага і сучаснасці ў новым, незвычайным ракурсе, больш комплексна і аб'ёмна. У выніку нараджалася нешта прынцыпова новае — радзімазнаўства, або, калі карыстацца тэрміналогіяй XIX ст., народазнаўства.

Урэшце, нестае Генадзя Каханоўскага беларускай літаратуры і літаратуразнаўству. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, ён пісаў не толькі навукова доказна, але і вобразна, эмацыянальна. Каханоўскім выяўлены і асэнсаваны невядомыя раней факты жыцця і творчасці Янкі Купалы, Адама Гурыновіча, Міхася Чарота, Фелікса Тапчэўскага, многіх забытых пісьменнікаў «нашаніўскай пары». Перавага, вядома, аддавалася землякам — тым, хто або нарадзіўся на Маладзечаншчыне, або працаваў тут.

8 студзеня Генадзю Каханоўскаму, вучонаму і пісьменніку, які лёгка адчыняў таямніцы часу, свабодна валодаў імі, споўнілася б усяго шэсцьдзесят.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

## ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту У. СЫЧОВА*

**КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

Рэдакцыя газеты «Звязда» аб'яўляе конкурс складання шахматных кампазіцый па артадаксальных жанрах, а таксама на кааператыўны і зваротны мат.

Лепшыя задачы і эцюды будуць апублікаваны на працягу 1996 года.

Гадавы конкурс складання адначасова будзе і конкурсам рашэнняў. На працягу года правядзём і святочныя экспрэс-конкурсы па рашэнню кампазіцый. Як і раней, змесцім цікавыя партыі і пазіцыі з турнірнай практыкі майстроў і гросмайстраў.

Мэта раздзела — кантакт з аматарамі шахмат. Чакаем вашых пісьмаў па разнастайных пытаннях.

Творы на дыяграмах і свае адказы трэба высылаць на адрас рэдакцыі: 220041, г. Мінск, вул. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».

Ніжэй прапануем першыя творы конкурсу складання.

**№ 1. А. ВАРЫЦКІ** *(Брэст)*

**Белыя:** Кра2, Лb2, Кс1(3).
**Чорныя:** Крd1, Ле1, Са1, пп:с2, d2 (5).
Кааператыўны мат за 2 хады (два рашэнні).

**№ 2. І. БОНДАР** *(Ганцавічы)*

**Белыя:** Кра7, Kb4; пп:b2, c3, f4, g4(6).
**Чорныя:** Кра5, пп:с7, d2, d7, е6, е7(6).
Выйгрыш.

Нагадаем, што ў задачах на кааператыўны мат пачынаюць чорныя і «дапамагаюць» белым аб'явіць мат чорнаму каралю.

РЭПАРТАЖ

# ХТО Ў КІШЭНІ МАЕ, ТОЙ І БАЛЬ СПРАЎЛЯЕ

Шэсць гадоў назад ва ўрочышчы «Гай» для будаўніцтва санаторыя быў высечаны невялікі ўчастак лесу. І хаця ўрочышча падыходзіла ўшчыльную да горада і лес быў моцна засмечаны, сам факт высечкі выклікаў многа шуму. Мясцовыя барацьбіты за справядлівасць праз гарадскую газету павялі наступ на Баранавіцкае аддзяленне чыгункі, якое і задумала пабудаваць санаторый для сваіх работнікаў. Дарэчы, побач з санаторыем тэкстыльнага камбіната.

Але перабудова ўжо заканчвалася, а СССР стаяў на мяжы вялікай катастрофы, і ўжо нікому не было справы ні да лесу, ні да санаторыя. Барацьбіты заняліся палітыкай, выбарамі...

За дзень да Новага года сустракаю знаёмага.

— Хочаш убачыць баль у час чумы, зазірні ў санаторый чыгуначнікаў, — прапанаваў ён.

Праз некалькі дзён я ўжо падыходзіў да гэтага санаторыя. У параўнанні з ім санаторый тэкстыльнага камбіната выглядаў звычайнай чатырохпавярховай «хрушчоўкай», а ён, між іншым, будаваўся ў часы, калі не было праблемы ні з грашыма, ні з палівам... А тут, калі ў краіне такое цяжкае становішча, узводзіцца, а першая чарга ўжо працуе, палац-санаторый. Сапраўды, усё тут зроблена дыхтоўна і з размахам. Граніт і мармур звонку, імпартовыя дзверы на ўваходзе адчыняюцца мякка і нячутна. Інтэр'ер таксама абстаўлены з густам, але ўсё ў ім замежнае. Мэбля, тэлевізары, свяцільнікі, пластмасавыя вазоны ў кадках, парцьеры... Нават сакратарка ў прыёмнай галоўнага ўрача, калі б мела не такі сур'ёзны выгляд, устрымалася б як чужаземка.

А затым галоўны ўрач А. Драздоў вадзіў мяне па розных кабінетах і паказваў, у якім і ад чаго лечаць. Тут ёсць і саляная пячора, галакамера, у якой могуць лячыцца хворыя на астму, а ў кабінеце кітайскай медыцыны хворымі займаюцца спецыялісты, якія прайшлі стажыроўку ў прэстыжных цэнтрах Расіі...

Доктар расказвае, што пражываючыя ў санаторыі праходзяць поўны цыкл аздараўлення, што іх абслугоўваюць дваццаць дзве медсястры і дзесяць урачоў, што ў лесе, каля санаторыя, будзе пракладзена сцежка здароўя, што... Я слухаю галоўнага ўрача, а ў самога круціцца дзве думкі: «Для каго ўсё гэта зроблена? І на якія (чые) грошы? Калі б санаторый належаў не чыгунцы, якая і надалей застанецца дзяржаўнай, можна было б падумаць, што нейкія ценявыя структуры ўкладваюць грошы, каб затым гэты будынак прыватызаваць.

На нейкі час застаюся адзін. Пытаюся ў старога чалавека з палачкай, які спыніўся каля лесвіцы: хто ён, кім працаваў? Гаворыць, што сорак гадоў прарабіў слесарам, а цяпер пенсіянер. Хварэе. А потым я размаўляў з пенсіянерам-машыністам і з праваднiцай, якая працуе. Яны выказалі задавальненне ўсім. Добрыя абслугоўванне, лячэнне, харчаванне... І галоўнае, невялікая плата. Хаця пуцёўка каштуе каля трох мільёнаў, чалавек плаціць за дваццаць чатыры дні дзвесце восемдзесят тысяч.

У гэты ж дзень я сустрэўся і з начальнікам Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі, але тут хачу зрабіць невялікае адступленне.

З распадам Саюза распалася і ўся аздараўленчая сістэма. Пры ўсіх нараканнях на несправядлівасць, а яна была, бо пуцёўку часта без «блату» атрымаць было цяжка, хворага чалавека прадпрыемства магло накіраваць у спецыялізаваны санаторый практычна ў любую рэспубліку былога Саюза. Пансіянаты, санаторыі, дамы адпачынку, нягледзячы на ўсе недахопы, працавалі адладжана. Сёння сітуацыя рэзка змянілася. Хто цяпер можа паехаць на поўдзень лячыцца? Беларусі неабходна ствараць сваю аздараўленчую сістэму, якая кампенсавала б хоць у нейкай меры страчанае.

Начальніку Баранавіцкага аддзялення чыгункі В. Рахманько я задаў пытанне адкрыта: «Адкуль у вас такія грошы, каб адбудаваць гэты санаторый? Няўжо чыгунку не закрануў эканамічны крызіс?»

І тут я даведваюся, што аддзяленне сваіх грошай не мае, а якія зарабляюцца, паступаюць на цэнтральны рахунак. Ідэю ўзвядзення санаторыя падтрымаў Я. Валадзько — начальнік Беларускай чыгункі, а таксама В. Рагачоў — старшыня прафсаюза чыгункі.

Акрамя таго, што ўжо ёсць свой санаторый, Віктар Рыгоравіч вядзе перамовы з кіраўніцтвам тэкстыльнага камбіната аб набыцці санаторыя тэкстыльшчыкаў, і сталічнае начальства дае на гэта згоду. Справа ў тым, што тэкстыльны камбінат усё «тужэй зацягвае пояс». А колькі гадоў назад на камбінаце «шыкавалі». Калі ў горадзе зарплата ў сярэднім была 2-3 тысячы рублёў, тэкстыльшчыкі атрымлівалі па 8 тысяч, а наперад ніхто не глядзеў. На чыгунцы з самага пачатку гэтым шляхам не пайшлі. Зарплата ў начальніка аддзялення — 1 млн. 100 тысяч рублёў, у многіх работнікаў чыгункі яна бывае вышэйшая. Вядома, што такая ўраўнілаўка не можа з'яўляцца эталонам, хаця і дазваляе эканоміць. Баранавіцкі чыгуначны вузел — буйнейшы ў Беларусі. Гэта сотні кіламетраў чыгункі, завод па рамонту электрычак, капітальны рамонт электравозаў. Дарэчы, рамонт у Прыбалтыцы абыходзіўся б у 4—7 разоў даражэй.

Пра стабільнасць работы чыгункі (Баранавіцкага аддзялення) гаворыць і тое, што за два гады не скарацілі ніводнага чалавека, ні разу не было затрымкі зарплаты. І гэта на фоне таго, што працэнт перавозак рэзка скараціўся. Скажам, транзіт з Украіны ў Прыбалтыку ўпаў на 70 працэнтаў, вялікую канкурэнцыю чыгунцы стварыў аўтамабільны транспарт. Да гэтага трэба дадаць стратнасць прыгараднага транспарту. Але ёсць і альтэрнатыўныя рашэнні. Скажам, практычна спыніў работу вузел Зубкі (Польшча)—Берастaвіца, праз які ў лепшыя часы праходзіла да 4 млн. тон грузу ў год. Быў створаны калідор для перавозкі вугалю з Сілезіі ў Літву. Каля 500 вагонаў шчэбеню штосутачна адпраўляецца з Сітніцы (Мікашэвічы) у Маскву, але самы высокі прыбытак даюць транзіт і грузавыя перавозкі.

Як бачым, наша чыгунка можа дазволіць сабе мець шыкоўны санаторый. Калі не памыляюся, шосты па ліку.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*Вясной 1974 года ў Бярэзінскі біясферны запаведнік з Белавежскай пушчы былі завезены 5 зуброў. Для адаптацыі іх змясцілі на месяц у вальеру, а потым выпусцілі на волю.*

*Але зубрам балоцістая мясцовасць не вельмі спадабалася (шмат вады, мінімум корму, ды плюс да ўсяго крывасмокі), вось і падаліся яны праз раку Бярэзіну на сухадолы ў Зембінскае лясніцтва Барысаўскага лясгаса. З таго часу прыжыліся там і цудоўна сябе адчуваюць. На сённяшні дзень іх налічваецца 36 асобін.*

*Барысаўскі лясгас з першых жа дзён узяў на сябе ахову і падкормку гэтых жывёл. Выдзелены спецыяльна два егеры для аховы і аднаўлення зубра. Ды і затраты лясгаса на іх падкормку немалыя: толькі за апошнія 10 месяцаў 1995 года было затрачана каля 5 млн. рублёў. Барысаўскі лясгас паказаў сапраўдны прыклад клопату і аховы прыроды свайго раёна, і заслуга ў гэтым усяго калектыву лясгаса.*

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

**На здымках:** егер Мікалай Мікалаевіч **Шацёрка** — адзін з тых спецыялістаў, якія даглядаюць зуброў.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».
Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-35-05, 68-27-83.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.191. Індэкс 63.850.
Зак. № 117.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12